# Голас Радзімы

№ 3 (2041)
21 студзеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Многія пакаленні студэнтаў Беларускага дзяржаўнага інстытута фізкультуры займаліся ў будынку на плошчы Якуба Коласа. Але з часам стала цесна ў старых сценах. І вось нядаўна інстытут пераехаў у новы, высокі і прасторны будынак, які вырас у мікраараёне Вяснянка. Пакуль тут пабудаваны галоўны корпус і студэнцкі інтэрнат. А ў бліжэйшай перспектыве будзе ўведзены сучасны інстытуцкі гарадок.**

**Летась Беларускі дзяржаўны інстытут фізкультуры адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны корпус інстытута. (Інтэрв'ю з нагоды юбілею «Дзень учарашні, дзень заўтрашні» змешчана на 5-й стар.).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# УТОПІЯ СТАНОВІЦЦА РЭАЛЬНАСЦЮ

*Прайшло два гады з дня абвяшчэння Савецкім Саюзам канцэпцыі бяз'ядзернага, бяспечнага свету. Вось што сказаў наконт гэтага Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, выступаючы 8 студзеня на сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, ідэалагічных устаноў і творчых саюзаў.*

**Тое, што мы робім унутры краіны, у спалучэнні з ініцыятывамі ў сферы знешняй палітыкі, дазволіла нам упершыню адчуць, што можна рэальна ставіць задачы па змяненню абстаноўкі ў свеце ў лепшы бок.**

**Успомнім: не так даўно — 15 студзеня 1986 года мы абвясцілі канцэпцыю бяз'ядзернага, бяспечнага свету. Першая рэакцыя на Захадзе (асабліва сярод палітыкаў, палітолагаў) была такая — гэта утопія. Хоць мы з самага пачатку думалі і рыхтавалі дакумент такім чынам, каб ён не ўспрымаўся як чарговы яркі лозунг, можа, з большым адценнем пацыфізму, але далёкі ад рэалістычнай палітыкі. Не, там дакладна абазначаны і мэты, і канкрэтныя падыходы да вырашэння задач, і баланс інтарэсаў. Мы былі ўпэўнены, што гэты дакумент будзе працаваць. І тым не менш на першым этапе многія лічылі, што ў ім абазначана толькі далёкая мэта, якая не мае актуальнага значэння.**

**Сёння мы бачым, як ідэі, якія мы прапанавалі і называем новым палітычным мысленнем, прабіваюць сабе дарогу — з цяжкасцю, з боем, пераадольваючы існуючыя стэрэатыпы, старыя падыходы, але прабіваюць. Вы ўсе маеце шырокія кантакты з рознымі прадстаўнікамі сусветнай грамадскасці і, думаю, пацвердзіце, што ў маёй канстатацыі няма перабольшання. Сітуацыя, настрой у свеце мяняюцца да лепшага. Гэты год паказаў пераканаўча, што ў свеце накапілася многа стомленасці, многа праблем, якія ўскладняюць чалавечае жыццё. Гонка ўзбраенняў, ваенная канфрантацыя адцягваюць велізарныя рэсурсы, чалавечы розум і чалавечыя сілы ад вырашэння жыццёва важных агульначалавечых задач.**

**Таму наша канцэпцыя, а ўслед за ёй — канкрэтныя ініцыятывы ляглі, увогуле, на падрыхтаваную глебу. І ўжо цяпер паявіліся першыя ўсходы. Канкрэтны вынік, думаю, мы можам характарызаваць такім чынам: пачаўся рэальны працэс паляпшэння, аздараўлення міжнароднай абстаноўкі. Пералому пакуль што не адбылося, але пачатак яму палажыла падпісанне Дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Так, у палітычным плане, калі падыходзіць да мінулага года ў шырокім аспекце, мы і ацэньваем яго як год буйнамаштабных, вялікіх падзей і перамен у сусветным развіцці.**

МІНСКІЯ ХАЛАДЗІЛЬНІКІ



**Каля 2 500 мінскіх халадзільнікаў штодзённа адпраўляецца ва ўсе куткі нашай краіны, за яе межы. Уся прадукцыя прадпрыемства мае ганаровы дзяржаўны «Знак якасці». У канцы мінулага года тут была выпушчана доследна-прамысловая партыя халадзільнікаў «Мінск-126», якія адпавядаюць узроўню сусветных стандартаў.**

**НА ЗДЫМКУ: інжынер-канструктар завода П. УДАЎ, начальнік лабараторыі выпрабаванняў халадзільнікаў В. ЧАСНАКОЎ, кіраўнік групы М. ЦВІРКО дбаюць пра якасць мінскіх халадзільнікаў.**

МОВАЙ СТАТЫСТЫКІ

## ФІНІШ ГОДА

У ГОД 70-ГОДДЗЯ Вялікага Кастрычніка беларускія трактарабудаўнікі вырабілі 100 300 трактароў — тую колькасць, аб якой марыў на зары Савецкай улады У. І. Ленін для ўсёй краіны.

РАСЦЕ волатаўская сіла самазвалаў Беларускага аўтамабільнага завода. Сёння жодзінскім гігантам пад сілу груз у 42, 75, 120 і 180 тон. У чарцяжах канструктараў — БелАЗы яшчэ большай грузападымальнасці.

НОВЫЯ МАДЭЛІ станкоў асвоены на Гомельскім станкабудаўнічым заводзе імя Кірава, халадзільнікаў — на мінскім вытворчым аб'яднанні «Атлант», швейных машын — на аршанскім заводзе «Легмаш», наручных гадзіннікаў — на гадзіннікавым заводзе «Прамень» і ў вытворчым аб'яднанні «Інтэграл».

НЯДРЭННА закончылі год і хлебаробы. Сабрана дзевяць мільёнаў тон збожжа, на два мільёны больш, чым у папярэднім годзе. На круг атрымана па 33,9 цэнтнера збожжа — таксама рэкорд.

КОЖНЫ гектар даў амаль па 200 цэнтнераў бульбы, 197 — гародніны, 279 — цукровых буракоў.

РАБОТНІКІ ферм рэалізавалі 1 мільён 660 тысяч тон мяса, 7,3 мільёна тон малака. Прырост да ўзроўню 1986 года склаў восем працэнтаў.

ЗА КОШТ усіх крыніц фінансавання ў рэспубліцы асвоена 6,4 мільярда рублёў капіталаўкладанняў. Уведзены ў строй магутнасці па вытворчасці хімічных валокнаў і ніцей вытворчага аб'яднання «Палімір», вырабаў з металічных парашкоў на Маладзечанскім заводзе парашковай металургіі, будаўнічых нярудных матэрыялаў у вытворчым аб'яднанні «Граніт», сухога абястлушчанага малака на Полацкім малочным камбінаце. Каля ста тысяч сем'яў атрымалі ключы ад новых кватэр.

ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ

## У ДАР АФГАНЦАМ

Чарговая калона з грузам савецкай бязвыплатнай дапамогі прыйшла ў горад Асадабад — адміністрацыйны цэнтр правінцыі Кунар, якая ўстанавіла прамыя сувязі з Мінскай вобласцю. На гэты раз у Кунар дастаўлены сельскагаспадарчыя машыны і інвентар. Раней мінчане прыслалі ў Афганістан лякарствы, мэблю для школ, а таксама 118 тон насеннага збожжа, якое было размеркавана сярод сялян правінцыі.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ

## БРЭСТ — ЗША, КАНАДЗЕ, ФІНЛЯНДЫІ

Вялікім попытам на ўнутраным рынку карыстаецца прадукцыя Брэсцкай доследна-эксперыментальнай фабрыкі верхняга трыкатажу. Вырабы прадпрыемства — сучасныя модныя сукенкі, джэмперы, спадніцы, кофты і многае іншае пастаўляюцца больш чым у 250 адрасоў нашай краіны. Спадабаліся яны і прадстаўнікам замежных фірм. Дасягнута папярэдняя дагаворанасць аб пастаўках сёлета вырабаў з брэсцкай маркай у Канаду, Фінляндыю, ФРГ і ЗША.

КААПЕРАТЫВЫ

## ПАРАДЫ ДАЕ «ДАВЕР'Е»

Такі сацыяльна-псіхалагічны кааператыў створаны ў Добрушы для маладой сям'і. У яго функцыі ўваходзіць канкрэтная дапамога маладажонам ці асобам, якія жадаюць стварыць сям'ю. Гэта і кансультацыі, і парады, і вырашэнне канфліктных сітуацый.

Тут таксама ствараецца служба знаёмстваў адзінокіх людзей. Паслугі аказваюць вопытнымі педагогамі, псіхолага юрыстамі, медыкамі, эканаміст...

Члены кааператыва «Давер'е» пабывалі на Добрушскім фарфоравым заводзе і ў раённым Доме культуры, дзе сустрэліся са слухачамі школы маладой сям'і.

КОНКУРСЫ

## ЗАСЛАЎСКІЯ КАЧКІ — ЛЕПШЫЯ

Беларуская занальная доследная станцыя па птушкагадоўлі, што знаходзіцца ў Заслаўі, з'яўляецца адным з вядучых племянных прадпрыемстваў краіны. Гэта пацвердзіў чарговы міжнародны конкурс, дзе была прадстаўлена прадукцыя беларускіх селекцыянераў.

На еўрапейскім конкурсе селекцыянераў-птушкаводаў, які праходзіў у Чэхаславакіі, заслаўскія качкі былі лепшымі па большасці паказчыкаў. Яны маюць высокую яйцаноскасць, добрую захаванасць маладняку. А па прыросту жывой вагі беларускія качаняты-бройлеры пабілі рэкорд. За сем тыдняў кожны падкантрольны гадаванец набраў 3 353 грамы вагі пры мінімальным ужыванні корму.

ТРАНСПАРТ

## НАДЗЕЙНЫ «ВАЛГАР»

Свой «фірменны» аўтобус атрымалі меліяратары і будаўнікі рэспублікі. «Валгар» — так назвалі навінку Пінскага завода сродкаў малой механізацыі — з камфортам даставіць 20 пасажыраў на аб'ект і назад.

Новы аўтобус, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, надзейна працуе зімой і летам, на розных адлегласцях. У салоне прадугледжана дадатковае ацяпленне, асвятленн... устаноўлены зручныя сядзенні. С... яльныя амартызатары надаюць ...тавай машыне плаўнасць ходу на любой дарозе.

ТЭХНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## ЗАЦІКАВ...ІСЯ КАНСТРУКТАРЫ

Сур'ёзныя заводскія канструктары зацікавіліся прыборам, які вырабілі юныя тэхнікі з Салігорскага Дома піянераў. Кампактны апарат імгненна рэагуе на з'яўленне ў шахце нават самай нязначнай колькасці шкодных газаў. Гэты прыбор — адзін з экспанатаў выстаўкі творчасці юных умельцаў, якая праходзіць у рамках Тыдня навукі, тэхнікі і вытворчасці, прысвечанага 30-годдзю горада.

Школьнікі не выпадкова сканструявалі апарат, прызначаны для бяспекі гарнякоў. Бацькі большасці гуртκоўцаў працуюць у вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій».

МАЛАДЗЁЖНЫ ТУРЫЗМ

## НОВЫЯ МАРШРУТЫ «СПУТНИКА»

Лацінскую Амерыку адкрыў для сябе «Спутник» — Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму ЦК ЛКСМБ. У турнэ па Аргенціне і Уругваю адпраўляецца народны ансамбль танца «Палессе», а крыху пазней адна з турыстычных груп пабывае ў Нікарагуа.

У адрозненне ад папярэдніх год цяпер большасць турыстычных груп будзе фарміравацца па інтарэсах. У Іспанію, Францыю, ФРГ, ГДР паедуць маладыя людзі, якія займаюцца паглыбленым вывучэннем моў гэтых краін, у Румынію — аматары горналыжнага спорту. Метрабудаўцы, трактара- і машынабудаўнікі, работнікі сельскай гаспадаркі наведаюць аднатыпныя прадпрыемствы, будуць гасцямі сваіх равеснікаў у іншых сацыялістычных краінах. Усяго ў 1988 годзе беларускі «Спутник» за кошт заключэння прамых дагавораў адправіць за мяжу амаль удвая больш юнакоў і дзяўчат, чым летась.

МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ

## СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ

Споўнілася дваццаць пяць год народнаму ансамблю танца «Вянок» Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава. Гэтай даце быў прысвечаны ўрачысты вечар у Палацы культуры прадпрыемства. Многа добрых слоў сказалі юбіляру прадстаўнікі грамадскасці, гледачы, удзельнікі мастацкай самадзейнасці вытворчага аб'яднання «Бабруйсккшына», якія прыехалі на юбілей.

Вечар завяршыўся вялікім канцэртам віноўнікаў урачыстасці, у якім вясёлую «Лявоніху» змянiла імклівая «Тарантэла», «Арагонская хота» сапернічала з украінскім «Гапаком», выконваліся шматколерныя танцы народаў свету.

ЗОНА АДПАЧЫНКУ

## ПАРК СВАІМІ РУКАМІ

Спецыяльны рахунак на фінансаванне будаўніцтва новага парку адкрыты па рашэнню гараджан у Пінскім аддзяленні Дзяржбанка. Гарвыканкам падтрымаў ініцыятыву працоўных калектываў аб стварэнні зон адпачынку ў мікрараёне Лугі.

Першыя ўзносы паступілі ад работнікаў культуры — у фонд будучага парку яны пералічылі грошы, выручаныя за канцэрты.

Ідэя мае не толькі матэрыяльную падтрымку. Свае прапановы, заўвагі, праекты пінчане могуць накіроўваць у гарвыканком, рэдакцыю мясцовай газеты. Каб Лугі сталі любімым месцам адпачынку, трэба выслухаць меркаванні ўсіх.

ГАНДАЛЬ




**Папулярнасць у гамяльчан і гасцей горада заваёўвае новы магазін «Мода». Тут рэалізуюць свае навінкі прадпрыемствы лёгкай прамысловасці рэспублікі. Расце месячны тавараабарот магазіна пры параўнаўча невялікім штаце работнікаў. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрываюць сучасныя формы гандлю — індывідуальнае абслугоўванне пакупнікоў, кансультацыі мастакоў-мадэльераў і спецыялістаў прадпрыемстваў-вытворцаў, а таксама ўдала сфарміраваны інтэр'ер гандлёвай залы.**

**НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале гомельскага магазіна «Мода».**

ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН

# ТРЫ НАПРАМКІ, ДЗВЕ МАДЭЛІ

З 1 студзеня 1988 года ў СССР на прынцыпы гаспадарчага разліку і самафінансавання пераходзяць прадпрыемствы, што выпускаюць прыкладна 60 працэнтаў прамысловай прадукцыі. І, натуральна, без радыкальнай рэформы ў сістэме аплаты працы на які-небудзь сур'ёзны поспех пры такім пераходзе разлічваць цяжка.

Можна вылучыць тры асноўныя напрамкі ў гэтай рэформе. Папершае, цесна звязаць заработную плату з працоўным укладам кожнага работніка. Іншымі словамі, плаціць не за працэс працы, а за яе вынікі. Здавалася б, мы спрабуем знайсці праблему там, дзе яе няма, бо з першых жа дзён Савецкай улады прынцып «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы» быў карэнным прынцыпам не толькі эканомікі, але і ўсяго грамадскага жыцця краіны, адной з асноў сацыяльнай справядлівасці, як яна разумеецца ў сацыялістычным грамадстве.

Аднак у пагоні за роўнасцю, у імкненні выраўняць узроўні жыцця розных слаёў насельніцтва прынцып «па працы» паступова быў падменены «ўраўнілаўкай». Незалежна ад рэальнага працоўнага ўкладу работнік меў гарантаваную аплату, прычым з кожным годам розніца ў зарплаце высока-, сярэдне- і нізкакваліфікаваных работнікаў усё змяншалася. І ў выніку — зніжэнне сацыяльнай актыўнасці ў рабочых і служачых і зацікаўленасці ў пастаянным росце прадукцыйнасці працы.

Другі напрамак лагічна вынікае з першага. Гутарка ідзе аб зняцці розных абмежаванняў, «паталкоў» у заработнай плаце. Яны ўводзіліся з-за таго ж няправільнага тлумачэння тэзіса аб сацыяльнай роўнасці. А першапачатковa пад гэтым разумелася не роўнасць у спажыванні, а роўнае права ўсіх членаў грамадства працаваць адпаведна сваім здольнасцям і гарантыі таго, што аплата ім будзе зроблена ў строгай адпаведнасці з рэальным працоўным укладам.

І трэці напрамак, бадай, самы галоўны ў перабудове сістэмы заработнай платы — прадастаўленне працоўным калектывам права самастойна выбіраць як найбольш эфектыўныя формы і сістэмы аплаты працы, так і вызначаць канкрэтныя памеры заработку рабочых, спецыялістаў і кіруючых работнікаў. Галоўны ён таму, што пры пераходзе прадпрыемстваў і арганізацый на гаспадарчы разлік і самафінансаванне любое ўдасканаленне зарплаты павінна адбывацца на падставе сродкаў, зробленых самімі працоўнымі калектывамі за кошт павышэння прадукцыйнасці працы і рацыянальнага выкарыстання фондаў аплаты працы.

Падобным чынам гэтае пытанне ў СССР ставіцца ўпершыню. Раней вырашэнні ўсіх праблем, звязаных з аплатай працы, фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэту, і таму функцыі рэгулявання індывідуальнай заработнай платы практычна поўнасцю бралі на сябе дзяржаўныя органы. Цяпер жа замест дробязнага кантролю дзяржава выпрацоўвае толькі агульныя правілы «зараблення» сродкаў, а сама рэформа праводзіцца без выдучэння дадатковых сродкаў з бюджэту.

Натуральна, што ў новых умовах ад канчатковых вынікаў працы залежыць не толькі зарплата асобнага работніка, але і фонд зарплаты ўсяго прадпрыемства ў цэлым. Для яго ўтварэння цяпер выкарыстоўваюцца дзве мадэлі. Першая прадугледжвае **фарміраванне фонду зарплаты прадпрыемства па нарматывах** у залежнасці ад прыросту альбо агульнага аб'ёму выпускаемай прадукцыі. Залежнасць простая: чым больш аб'ём ці прырост, тым больш сродкаў накіроўваецца ў распараджэнне працоўнага калектыву на аплату працы. Нарматывы ўтварэння вызначаюцца загадзя і не мяняюцца на працягу пяцігодкі. Гэта і з'яўляецца гарантыяй таго, што фонд зарплаты працоўнага калектыву залежыць толькі ад вынікаў яго работы. Акрамя таго, гэтак жа па нарматывах (у залежнасці ад прыбытку) утвараецца і другая крыніца сродкаў на аплату працы — фонд матэрыяльнага заахвочвання.

Другая мадэль прадугледжвае **утварэнне сродкаў на аплату працы па рэшткаваму прынцыпу.** З атрыманага прадпрыемствам даходу адлічваюцца (зноў жа па загадзя ўстаноўленых нарматывах) сродкі ў дзяржбюджэт, у фонд міністэрства, у фонды вытворчага і сацыяльнага развіцця самога прадпрыемства. Усё, што пасля гэтага застаецца, і складае фонд аплаты працы працоўнага калектыву, уключаючы і так званае матэрыяльнае заахвочванне (прэміі).

Няцяжка заўважыць, што другая мадэль больш цесна ўвязвае зарплату і ўсе даходы працуючых з канчатковымі вынікамі. Іншымі словамі, найбольш поўна адпавядае патрабаванням рэальнага самафінансавання. Тым не менш у сучасны момант большая частка савецкіх прадпрыемстваў выкарыстоўвае першы варыянт. Людзі яшчэ баяцца, што пасля ўсіх разлікаў і адлічэнняў можа не застацца сродкаў на аплату працы. Але, як лічаць спецыялісты, у далейшым рэшткавы прынцып фарміравання фонду заработнай платы будзе больш прымальны, больш выгадны для прадпрыемстваў, якім даспадобы самастойная праца.

Пакуль на новыя ўмовы аплаты працы пераведзена прыкладна сёмая частка ўсіх работнікаў, занятых у вытворчай сферы СССР, к канцу 1988 года ў гэтых умовах будзе працаваць 65—70 працэнтаў усіх работнікаў.

**Леанід КУНЕЛЬСКІ, член калегіі Дзяржаўнага камітэта СССР па працы і сацыяльных пытаннях.**

ПРАМЫЯ СУВЯЗІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ГДР І БССР

# «НЕ МАЕМ ТАЙН АДЗІН АД АДНАГО...»

**Падпісанне леташняй вясной у горадзе беларускіх нафтавікоў — Наваполацку пагаднення аб устанаўленні прамых сувязей паміж аб'яднаннем «Палімір» і народным прадпрыемствам ГДР «Лейне-Верке» імя В. Ульбрыхта — важная вяха і лагічны працяг развіцця супрацоўніцтва двух калектываў. На пытанні нашага карэспандэнта адказвае намеснік генеральнага дырэктара «Паліміра» Дзмітрый ЛУКІН.**

*— Амаль 20-гадовая гісторыя супрацоўніцтва прадпрыемстваў багатая і разнастайная. Якая падзея, звязаная з ім, вам асабліва памятная?*

— Здача ў эксплуатацыю ў Наваполацку ўстаноўкі «Палімір-50». Яе пуск — вынік вялікай сумеснай работы савецкіх і нямецкіх спецыялістаў, своеасаблівы этап у станаўленні аб'яднання. Але гэта была толькі першая, хоць і вельмі складаная, працаёмкая палавіна шляху па ажыццяўленню пастаўленай у міжурадавым пагадненні ад 1969 года мэты — у рамках сацыялістычнай інтэграцыі стварыць унікальную буйнатанажную ўстаноўку па вытворчасці поліэтылену высокага ціску магутнасцю 50 тысяч тон у год. Сумеснымі намаганнямі мы яе пабудавалі. Групе савецкіх і нямецкіх спецыялістаў, якія праектавалі і будавалі «Палімір-50», прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Сярод узнагароджаных — калегі з ГДР: Хельмут Хеме, Манфрэд Рэтч, Рэйнхард Нітшэ.

Другая, таксама нялёгкая частка шляху —бадаўніцтва ўстаноўкі «Палімір-60» у ГДР.

*— І па сённяшніх мерках дынаміка стварэння ўстановак уражвае. Як жа ўдалося ў рэкордна кароткія тэрміны — за 4 з палавінай гады справіцца з такім вялікім аб'ёмам работы?*

— Навізна і важнасць задачы, узаемнае жаданне хутчэй вырашыць яе натхняла, стымулявала дзейнасць навуковай і тэхнічнай думкі. А пачыналі з нуля. Быў створаны савет спецыялістаў дзвюх краін. Кожны бок дэлегаваў у яго састаў сваіх лепшых вучоных, інжынераў, канструктараў, праекціроўшчыкаў. Плённа працавалі групы абсталявання, аўтаматызацыі, тэхналогіі. Раз у квартал на нарадзе дакладвалі пра зробленае, абменьваліся ідэямі, думкамі і, вядома, пастаянна спрачаліся, як лепш і хутчэй ажыццявіць намечанае. Гэта было не складанне, а памнажэнне сіл.

*— Што карыснага прынесла супрацоўніцтва абодвум бакам?*

— Сумеснымі намаганнямі мы стварылі ўстаноўку, якая не ўступае, а па шэрагу параметраў пераўзышла ўстаноўку заходнегерманскай фірмы «Зальцгітэр». Яна пастаўляе абсталяванне для хімічных прадпрыемстваў у многія краіны свету, у тым ліку і ў нашу. Пуск «Паліміраў» дазволіў нам значна аслабіць залежнасць ад паставак абсталявання і запасных частак з капіталістычных краін. Атрыманы прадукт — поліэтылен вось ужо не першы год карыстаецца попытам і на сусветным рынку. Яго мы прадаём у Еўропе, рэгіёнах Далёкага Усходу, у Лацінскай Амерыцы.

А галоўнае — вялікая карысць народнай гаспадарцы нашых дзяржаў. Толькі ў сябе ў СССР мы забяспечваем поліэтыленам высокага ціску больш за 300 прадпрыемстваў. За 13 год «Палімір-50» акупіла сябе больш чым 7 разоў.

*— Пасля завяршэння будаўніцтва «Паліміраў» ваша супрацоўніцтва не аслабла?*

— Не, яно актыўна працягваецца. Мы пастаянна абменьваемся інфармацыяй аб рабоце абсталявання, прычынах збояў, непаладак, спосабах іх ліквідацыі, дзелімся новаўвядзеннямі. Так, тэхнічныя рашэнні спецыялістаў ГДР дазволілі нам павысіць надзейнасць эксплуатацыі ўстановак. Традыцыйнымі сталі дзелавыя паездкі спецыялістаў адзін да аднаго.

Мы таксама не маем тайн адзін ад аднаго. На прадпрыемстве "Лейне-Верке" ўкаранёны элементы наваполацкага метаду абслугоўвання ўстановак, выкарыстоўваецца наш вопыт правядзення капітальных рамонтаў. Як нам вядома, вялікі эканамічны эфект дала замена на «Паліміры-60» дарагога імпартнага масла на савецкае — лапрол. Мы першымі пачалі выраблаць поліэтылен, і ў нас, натуральна, назапасілася больш вопыту. Па просьбе нямецкіх калег у аб'яднанні прайшлі перападрыхтоўку чатыры групы рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў з «Лейне-Верке». На час пусканаладачных работ на «Паліміры-60» мы накіравалі ў ГДР самых кваліфікаваных спецыялістаў.

Герой Працы ГДР Ганс-Ульрых Бітарф на сходзе ў Наваполацку ў час заключэння дагавора аб інтэрнацыянальным спаборніцтве ўспамінаў, як ён і 60 яго таварышаў стажыраваліся на «Паліміры-50». «Савецкія інжынеры і рабочыя,— гаварыў ён, — шчодра дзяліліся сваім вопытам. Тут мы дэтальна вывучылі «паліміраўскі» комплексны метад па павышэнню прадукцыйнасці працы. Усё гэта затым паспяхова ўкаранялі ў сябе ў ГДР пры будаўніцтве больш магутнай устаноўкі».

Сказана было ад чыстага сэрца. Мы расцэньваем гэта як падзяку рабочага класа ГДР. Ганарымся тым, што наш калектыў узнагароджаны Памятным сцягам аб'яднання свабодных нямецкіх прафсаюзаў, Залатым знакам Таварыства германа-савецкай дружбы.

Нашы «Паліміры» нярэдка называюць сёстрамі. Напэўна таму, што створаныя талентам і працай нямецкіх і савецкіх спецыялістаў, яны ўвасабляюць моцную дружбу, узаемавыгаднае супрацоўніцтва дзвюх краін, з'яўляюцца яркім прыкладам эфектыўнасці сацыялістычнай інтэграцыі.

**Л. ТУГАРЫН.**

**Міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат (ВВК) створаны ў Любішчыцах дзесяць год назад. Сотні выпускнікоў дзевяці сярэдніх школ Івацэвіцкага раёна атрымалі тут прафесіі трактарыстаў, вадзіцеляў, апаратараў машыннага даення, жывёлаводаў, будаўнікоў... Многія з іх працуюць у мясцовых саўгасах і калгасах.**
**Цяпер у ВВК вучацца асновам прафесіі звыш 700 старшакласнікаў. У іх распараджэнні аўтамабілі, колавыя і гусенічныя трактары, збожжаўборачны камбайн, увесь комплекс навясных агрэгатаў. Школьнікаў з іншых вёсак падвозяць на заняткі два аўтобусы. Кожны тыдзень у майстэрнях, вучэбных класах, а затым на палях, у цяпліцах і на фермах калгаса «Любішчыцы» праходзяць навучэнцы вытворчую практыку. На прыкладзе работы лепшых працаўнікоў гаспадаркі вучацца старшакласнікі хлебаробскай справе, гаспадарскім адносінам да зямлі.**
**НА ЗДЫМКАХ: выкладчык міжшкольнага ВВК Канстанцін ГАЛАБУРДА; дзесяцікласнікі з Івацэвіч Уладзімір САЛАНКО (злева) і Аляксандр ЗАХАРЧУК асвойваюць прафесію вадзіцеля.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**





**Паважаныя чытачы!**

**Зусім нядаўна наша краіна святкавала 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэты знамянальны юбілей разам з намі адзначалі прагрэсіўныя людзі ва ўсіх краінах планеты. Напярэдадні свята мы звярнуліся да ўсіх нашых замежных чытачоў з просьбай прыняць удзел у конкурсе на лепшае пісьмо, прысвечанае гэтай падзеі. У адказ рэдакцыя атрымала многа пісем з розных краін, якія рэгулярна публікаваліся летась у «Голасе Радзімы». Пісьмы на гэтую блізкую ўсім нам тэму працягваюць прыходзіць і цяпер. Мы аказаліся ў цяжкім становішчы, паколькі вызначыць лепшае пісьмо было немагчыма. Усе яны вельмі цікавыя, шчырыя, прасякнуты любоўю да Радзімы, гордасцю за яе. Таму рэдакцыя сёння хоча падзякаваць тым, хто прыняў удзел у конкурсе, паведаміць, што ўсім ім накіраваны заахвочвальныя прызы — кнігі, і прапанаваць вашай увазе яшчэ некалькі пісем суайчыннікаў, прысвечаных юбілею.**

# АДДАДЗІМ ДАНІНУ ПАМЯЦІ

Знамянальным быў мінулы год для нашай Радзімы: яна святкавала 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Я чытала ў газетах многа матэрыялаў, прысвечаных гэтай падзеі. У іх расказвалася, якія вялікія поспехі былі дасягнуты Краінай Саветаў за гістарычна кароткі тэрмін. Так, прынізіць гэтыя дасягненні ніхто не зможа, і савецкія людзі, як і мы, вашы замежныя суайчыннікі, могуць з поўным правам імі ганарыцца. Але мяне яны радуюць асабліва, паколькі я з дзяцінства чула расказы блізкіх пра жыццё да рэвалюцыі. Аб гэтых родных мне людзях, памяць аб якіх свята захоўваецца ў нашай сям'і, я і хачу расказаць чытачам газеты.

Мае продкі ўдзельнічалі ў рэвалюцыйным руху, пачынаючы з 1905 года. Прадзед Гаўрыла Іваноў у той час працаваў на Пуцілаўскім заводзе. У крывавую нядзелю — 9 студзеня 1905 года, калі пецярбургскія рабочыя прыйшлі да Зімняга палаца з петыцыяй да цара, дзе прасілі абароны ад прыгнёту і хлеба, на плошчы была і яго сям'я. У маніфестацыі ўдзельнічалі дзесяткі тысяч людзей. Ішлі яны мірна, ні ў кога не было зброі. Але Мікалай II аддаў загад страляць. І царскія войскі стралялі, таптапі людзей коньмі, секлі шашкамі. Больш тысячы было забіта і каля чатырох тысяч паранена. Мой прадзед з дзецьмі выратаваўся ад крывавай расправы, схаваўшыся ў падвале.

Так пачыналася рэвалюцыя. Голад і галеча, жорсткія рэпрэсіі штурхалі рабочы люд на актыўную барацьбу за паляпшэнне свайго эканамічнага становішча. Потым былі доўгія гады рэакцыі, а ў жніўні 1914 года пачалася першая сусветная вайна. Я не буду апісваць падрабязна гістарычныя падзеі таго часу, яны і так добра вядомы. Скажу толькі, што мой бацька Захарый Антонавіч таксама быў на фронце, узнагароджаны медалём за храбрасць, але ваяваў ён не за бацюхну-цара, а за свой народ, супраць інтэрвентаў. І калі ў краіне зноў пачаўся ўздым рэвалюцыйнага руху, ён стаў яго актыўным удзельнікам. 22 лютага 1917 года ў адказ на стачку рабочых дырэкцыя Пуцілаўскага завода закрыла прадпрыемства. Можна ўявіць, у якім бядотным становішчы аказаўся мой прадзед, пазбавіўшыся работы. А ў яго ж было на руках чатырнаццаць дзяцей. У мяне захавалася фатаграфія прабабкі — беднай працаўніцы, якая зарабляла на хлеб для сям'і, мыючы бялізну багатых пані. Ведаю, што становішча многіх працоўных у Расіі было яшчэ горшым. Пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў масы рабочых, бедных сялян і салдат змагаліся за хлеб, за зямлю, за раўнапраўе народаў.

Мой бацька ўступіў у партыю бальшавікоў у 1917 годзе, ваяваў супраць белагвардзейцаў, Пятлюры і Калчака. Ужо пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ён быў чырвоным партызанам і праследаваў недабітыя белагвардзейскія банды, якія гаспадарылі ў вёсках каля Адэсы, палілі дамы і забівалі мірных жыхароў. Бацька загінуў, калі яму было ўсяго 25, а мне — адзін год.

Мой бацька і яго таварышы — чырвоныя партызаны былі бедныя сяляне, не вельмі адукаваны, але дастаткова разумныя, каб ведаць, за якія мэты змагаліся. Думаючы аб 70-годдзі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, з павагай і глыбокай пашанай успамінаю сваіх продкаў і іх саратнікаў па барацьбе. І сёння, як у мінулым нашы продкі, мы павінны змагацца за мір і шчаслівае жыццё без войнаў.

**Любоў МАГЛАВА.**

Бельгія.

# ПОЎНАСЦЮ ЗГОДНЫ

Хачу падзякаваць вам за тое, што рэгулярна атрымліваю вашу газету, а таксама за невялікія кніжачкі «Бібліятэчкі «Голасу Радзімы», з якіх даведваюся, як ідзе жыццё ў сучаснай Савецкай Беларусі і якім яно было да 1917 года.

Уся ваша літаратура — гэта пасапраўднаму праўдзівая крыніца інфармацыі для замежных суайчыннікаў. Вось нядаўна я ад пачатку да канца вельмі ўважліва прачытаў у газеце выступленне Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з нагоды 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Шчыра скажу, што гэта выступленне савецкага кіраўніка было для мяне вельмі цікавым. Ён не толькі закрануў мінулае Савецкай дзяржавы, але і прапанаваў многа важных змястоўных ідэй і планаў адносна развіцця краіны, такіх, як публічнасць, перабудова і г. д. Што датычыць мінулага Савецкага Саюза і яго гісторыі, то М. С. Гарбачоў меў рацыю, калі рэзка асудзіў культ асобы Сталіна, а таксама трацкізм як чыста рэвізіяністкую ідэалогію. Мы ўсе добра ведаем, што ў перыяд культу асобы былі памылкі, якія мелі трагічныя вынікі: пацярпела многа людзей. Нямала шкоды прынёс і трацкізм. Усе мы тут, на Захадзе, хто чытаў і вывучаў творы Карла Маркса, Фрыдрыха Энгельса і У. І. Леніна, выдатна ведаем, што палітычная тэорыя Л. Троцкага абсалютна не супадае з марксісцка-ленінскай тэорыяй, з'яўляецца рэвізіяністкай і пры практычным прымяненні можа служыць толькі на карысць міжнароднай буржуазіі. Нездарма тут, у нас у Амерыцы, усе сапраўдныя камуністы называюць трацкістаў «падпявaламі буржуазіі». Гэта так і ёсць. Вось, напрыклад, тут на словах яны быта з'яўляюцца цвёрдымі і перакананымі марксістамі і страснымі сябрамі ўсяго рабочага класа, а на справе — усё наадварот. Вось чаму я цалкам згодны з той справядлівай ацэнкай, якую даў у сваім дакладзе Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў такім дзвюм шкодным з'явам у гісторыі нашай Радзімы, якімі былі трацкізм і культ асобы. Пры гэтым ён цвёрда падкрэсліў, што падобныя памылкі ніколі больш не павінны быць дапушчаны ў будучыні і што развіццё савецкага грамадства павінна ісці па шляху, акрэсленаму вялікім Леніным.

Мы бачым, што гэтыя прынцыпы ўсё больш шырока выкарыстоўваюцца ў Савецкім Саюзе, адабраем і падтрымліваем палітыку дэмакратызацыі і публічнасці. У такой абстаноўцы савецкім людзям будзе лягчэй працаваць, праяўляць свае здольнасці, таленты і ініцыятыву, каб дабіцца выканання тых, сапраўды грандыёзных задач, якія ставіць перад імі сёння Камуністычная партыя: лепш працаваць, каб лепш жыць. Такі лозунг можа не задавальняць толькі лайдакоў і дармаедаў.

Што ж тычыцца сустрэчы М. С. Гарбачова з прэзідэнтам ЗША Р. Рэйганам і падпісання пагаднення дзвюх вялікіх дзяржаў аб узаемным скарачэнні ядзерных ракет сярэдняй і меншай дальнасці, то гэты першы крок па шляху да ўзаемнага раззбраення можна толькі вітаць. Хачу ад усяго сэрца пажадаць, каб за гэтым першым пагадненнем у бліжэйшай будучыні надышло і другое, і трэцяе, каб хутчэй настаў час, калі людзі ўсёй планеты змогуць жыць спакойна і бяспечна і не турбавацца пра будучыню дзяцей і ўнукаў. Будзем спадзявацца, што візіт у Маскву прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана, які намечаны на гэты год, для падпісання яшчэ аднаго пагаднення па раззбраенню, таксама будзе плённым і прынясе адчувальныя вынікі.

**Аляксандр КРАШАНІННІКАЎ.**

ЗША.

# РЭВАЛЮЦЫЯ МІРУ І СТВАРЭННЯ

Узяцца за пяро і яшчэ раз вярнуцца да тэмы Вялікага Кастрычніка прымусілі мяне газеты з Радзімы. Вы самі добра разумееце, што, пакуль пошта даставіць іх суайчыннікам, напрыклад, сюды ў Аўстралію, праходзіць нямала часу. Таму я зусім нядаўна атрымаў нумар «Голасу Радзімы», у якім апублікаваны даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова «Кастрычнік і перабудова: рэвалюцыя працягваецца». Цяжка нават ацаніць, наколькі гэта было цікава для мяне. Я не толькі сам знайшоў масу карысных звестак, але і расказаў падрабязна аб дакладзе сваім сябрам і знаёмым. Хіба можам мы не ганарыцца тымі вялікімі поспехамі, якіх дабілася сёння Савецкая краіна. І хіба можам мы хоць на міг забываць, што толькі Вялікі Кастрычнік прынёс святло і радасць жыцця некалі адсталым народам Расіі! А хіба не Кастрычнік у корані змяніў адносіны паміж дзяржавамі і аказаў вялікі ўплыў на лёсы ўсіх народаў планеты! Менавіта гэта рэвалюцыя дазволіла ўпершыню ў гісторыі чалавецтва стварыць грамадства ў інтарэсах усіх яго членаў. Яна назаўсёды адмяла створаныя эксплуататарамі міфы аб прымітыўных і выбраных народах, аб эліце, якой нібыта вызначана панаваць. Рэвалюцыя стварыла магчымасці для ажыццяўлення вечнага імкнення людзей да міру, да працы, якая прыносіць задавальненне, да творчых пошукаў, да шчасця. Яна зрабіла магчымай пабудову грамадства, свабоднага ад сацыяльных нягод, дзе няма непісьменнасці, беспрацоўя, бяздомных. Такіх важнейшых правоў чалавека, як права на працу, на адпачынак, на бясплатную адукацыю і медыцынскае абслугоўванне, на сацыяльнае забеспячэнне, на жыллё, да сённяшняга дня не гарантуюць заканадаўствы самых «дэмакратычных» капіталістычных краін. А ў савецкіх людзей усё гэта ёсць даўно і гарантуецца Асноўным законам краіны—Канстытуцыяй СССР. Перш за ўсё гэта матэрыяльныя гарантыі, што прадастаўляюцца дзяржавай.

Не магу не ўспомніць і аб тым, што ўсё, чым сёння ганарыцца савецкі народ і ўсе мы, прагрэсіўныя замежныя суайчыннікі, не давалася лёгка. Мала таго, што бальшавікі атрымалі ў спадчыну зусім разбураную, спакутаваную і галодную краіну. На працягу многіх год ім даводзілася адбіваць адкрытыя атакі імперыялістаў. Грамадзянская вайна, інтэрвенцыя, блакада, вайна з фашызмам. Гэта былі цяжкія выпрабаванні. Але савецкі народ вытрымаў іх з годнасцю. І мяне радуе, калі я чытаю ў вашай газеце, што Беларусь, якая моцна пацярпела ад вайны, так хутка падняла сваю эканоміку і цяпер замежным гасцям проста не верыцца, што тут не так даўно былі адны руіны і папялішчы. Радуе, што БССР, стварэнне якой, дарэчы, стала магчымым толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, сёння без усякага перабольшання можна назваць рэспублікай новабудоўляў. Стрэламі высокіх вежавых кранаў прачэрчана неба ў розных раёнах Мінска, у абласных і раённых цэнтрах. А хіба такія вёскі пакідалі нашы суайчыннікі, калі ўцякалі ад голаду і галечы? Так, вашы поспехі выклікаюць радасць і гордасць. Вялікую цікавасць выклікаюць у нас тыя перспектывы, якія сёння адкрываюцца перад нашай Радзімай. Зразумела, што будаўніцтва першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы не магло працякаць гладка, без няўдач і перашкод, без памылковых пачынанняў і рашэнняў. І аб гэтым сказаў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. Але на памылках вучацца, а рэвалюцыя працягваецца. Ва ўсіх галінах жыцця савецкага грамадства ідзе перабудова. Яна надасць сацыялізму самыя сучасныя формы, якія адпавядаюць умовам і патрэбам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і інтэлектуальнаму прагрэсу савецкага грамадства.



Нас, суайчыннікаў, хто пражывае за мяжой, не можа не хваляваць пытанне захавання міру на планеце і не могуць не радаваць гераічныя намаганні ў гэтых адносінах нашай Радзімы і асабіста Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Аднабаковае спыненне ядзерных выпрабаванняў, прапановы аб стварэнні бяз'ядзерных зон, праграма ліквідацыі зброі масавага знішчэння ўсялілі надзею ў сэрцы людзей і кінулі выклік кіраўнікам, якія прывыклі жыць па старых мерках, у атмасферы недаверу і нянавісці. Многім, вядома, гэта не падабаецца. Вось, напрыклад, зусім незадоўга да святкавання Вялікага Кастрычніка тут, у Аўстраліі, узмоцнена распаўсюджвалі чуткі, што М. С. Гарбачова і яго жонку атруцілі і што яны доўгі час хварэлі. Але ж гэта хлусня, хаця і зразумела, для чаго гэта робіцца. Я чытаў многія выступленні савецкага кіраўніка і захапляюся яго розумам і энергіяй. А ўсякія версіі аб атручваннях і г. д. патрэбны тым дзеячам з ЦРУ, якія хацелі б дыскрэдытаваць савецкага лідэра і пераканаць абывацеляў на Захадзе, што яго не падтрымліваюць савецкія людзі. Але гэтыя камарыныя ўкусы нічым не пагражаюць Савецкаму Саюзу. Жыццё ў вас становіцца больш цікавым і дынамічным. Усюды адбываюцца вялікія перамены. І мы, прагрэсіўныя суайчыннікі, верым, што Савецкі Саюз зможа стаць самай передавой краінай у свеце ва ўсіх адносінах пры адной толькі ўмове, што не будзе ядзернай вайны.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

# АЎТАРЫТЭТ ВЫКАНКОМА





**Вялікім аўтарытэтам карыстаецца ў мясцовых жыхароў іх орган улады — Гарадзілаўскі сельскі Савет, што на Маладзечаншчыне, на тэрыторыі якога 30 населеных пунктаў, дзе жыве 4,5 тысячы чалавек. Дзейнасць 55 дэпутатаў і васьмі пастаянных камісій выканкома скіравана на вырашэнне просьб і наказаў усіх выбаршчыкаў. Асобую ўвагу выканком надае будаўніцтву жылля для сяльчан. Тут распрацавана і зацверджана жыллёвая праграма. Яна складзена на падставе планаў сацыяльнага развіцця мясцовых гаспадарак. За чатыры гады плануецца пабудаваць каля 300 дамоў. Пастаянна ў полі зроку народных выбраннікаў і добраўпарадкаванне пасёлкаў, вёсак, рамонт вуліц і дарог. На тэрыторыі сельсавета прыкметна палепшылася медыцынскае і бытавое абслугоўванне насельніцтва, больш тавараў масавага попыту стала завозіцца ў магазіны. У аддаленыя пасёлкі дакладна па графіку прыходзяць аўталаўкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Аляксей СІНЯЎСКІ, які трыццаць год працаваў сакратаром выканкома, дзеліцца вопытам дэпутацкай работы з маладымі калегамі. За парадай да яго прыйшла дэпутат сельскага Савета Ганна ПАТАШКЕВІЧ — запраўшчыца з калгаса «Кастрычнік»; старшыня сельскага Савета Пётр СЯНЬКО (справа) з пенсіянерамі вёскі Журэвічы.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

*ІНТЭРВ'Ю З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ*

# ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ, ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ

**З прарэктарам Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры Валянцінам КІСЯЛЁВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*— Першымі студэнтамі інстытута паўстагоддзя назад сталі навучэнцы тэхнікума фізічнай культуры. Валянцін Максімавіч, ці захаваліся нейкія звесткі пра гэту навучальную ўстанову, якая была вашым папярэднікам?*

— Звестак засталося мала: мінула шмат часу, многае знішчана вайной. Нават у архівах не ўсё захавалася. Тым не менш, магу сцвярджаць, што роля тэхнікума ў развіцці фізкультурнага руху выключная. Гэта ж была першая навучальная ўстанова такога тыпу ў Беларусі. Хачу нагадаць, што да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі наша рэспубліка амаль не мела спартыўнай базы. Усяго 0,015 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва займалася фізкультурай. У гімназіях буйнейшых на той час гарадоў (смешна казаць!) працавалі адзінкі прафесійных фізкультурных кадраў.

Прайшло параўнальна няшмат часу, і вось вам новыя, супрацьлеглыя факты. У 1937 годзе адбыўся Усесаюзны парад фізкультурнікаў на Краснай плошчы ў Маскве. Спартыўная дэлегацыя нашай рэспублікі там была адной з самых шматлікіх — 250 чалавек. Усіх уразіла майстэрства пасланцоў Беларусі. Прывяду вытрымкі з газет таго часу. Паведамленне ў газеце «Красный спорт»: «Найвялікшы поспех з усіх нацыянальных дэлегацый выпаў на долю беларусаў. Яны паказалі зладжаную, вельмі добрую падрыхтоўку і ад пачатку да канца прадуманае відовішча». «Думка прысутных на Краснай плошчы адна: усім лепш за іншыя дэлегацыі спадабаліся фізкультурнікі Беларускай рэспублікі», — дапаўняла сказанае газета «Комсомольская правда».

Аб высокім развіцці фізкультуры і спорту ў рэспубліцы таго перадваеннага перыяду сведчаць радкі з Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР «Аб узнагароджанні добраахвотных спартыўных таварыстваў, работнікаў і майстроў фізічнай культуры»: «...За ўзорную пастаноўку справы падрыхтоўкі кадраў фізічнай культуры і за высокія спартыўна-фізкультурныя дасягненні — узнагародзіць ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга Беларускі тэхнікум фізічнай культуры».

*— Калі меркаваць па гэтых фактах, пасля рэарганізацыі тэхнікума ў інстытут вы атрымалі добрую матэрыяльную і вучэбную базу?*

— Тут, як кажуць, няма чаго грашыць. База і сапраўды, па тым вымярэнні, была нядрэнңай. Але мы ёю карысталіся нядоўга — яна была знішчана амаль поўнасцю літаральна ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны: разбураны будынак інстытута, разрабаваны спартыўны інвентар...

*— Даводзілася не раз чытаць і чуць пра мужнасць выкладчыкаў і студэнтаў інстытута ў гады вайны...*

— Пра гэта нават расказваецца ў кніжках. Каля двухсот выкладчыкаў і студэнтаў, прыкладна 60 працэнтаў усяго саставу, былі на фронце, у партызанскіх атрадах, заставаліся ў Мінску ў падполлі. Сярод іх асабліва вызначыўся выкладчык Леанід Мамат. Аб гэтым чалавеку хадзілі легенды. Ён пераапранаўся ў нямецкую форму, спыняў варожыя аўтамашыны на Лагойскай шашы і ва ўпор расстрэльваў фашыстаў. На жаль, перад самым вызваленнем Беларусі Леанід Мамат загінуў.

Ці яшчэ прыклад. Студэнтка інстытута Галіна Меншыкава ў гады вайны была сувязной, разведчыцай, камандзірам узвода партызан. Прымала ўдзел больш чым у 30 баявых аперацыях. На яе асабістым рахунку 13 узарваных варожых эшалонаў, дзесяткі знішчаных фашыстаў.

...Ды і першыя пасляваенныя гады ніяк не назавеш лёгкімі. Як адбудоўвалі спартыўныя залы, пляцоўкі, стадыёны, як займаліся студэнты ў былых бамбасховішчах — не мне вам, мінчаніну, казаць. У той час усім было цяжка...

*— Валянцін Максімавіч, давайце пагаворым цяпер аб сённяшніх справах інстытута. Якую ролю адыгрывае ён у фізкультурным жыцці рэспублікі, краіны?*

— Баюся стаміць вас лічбамі, але без іх нам нельга, яны — мае першыя памочнікі ў гутарках з журналістамі. Дык вось...

За пяцьдзесят гадоў свайго існавання інстытут падрыхтаваў звыш 13 тысяч спецыялістаў. У рэспубліцы дзевяць з кожных дзесяці работнікаў фізічнай культуры — нашы выпускнікі. Сотні іх працуюць у іншых рэспубліках.

З кожным годам усё больш і больш нашых выкладчыкаў, выпускнікоў адпраўляюцца за мяжу для аказання дапамогі ў развіцці фізкультуры і спорту краінам літаральна ўсіх кантынентаў. Вось і нядаўна ў Афрыку запрошаны нашы вядомыя ў мінулым футбалісты Валерый Яромка і Юрый Мохаў... Дзесьці ў шаснаццаці, калі не больш, замежных краінах ёсць нашы выкладчыкі.

*— У тым спісе камандзіраваных за мяжу я бачу нямала чэмпіёнаў, у мінулым спартыўных зорак першай велічыні...*

— Не палічыце за самахвальства, але падкрэслю, што рэдка якая родная нам установа мае столькі выдатных спартсменаў. Аляксандр Мядзведзь, Аляксандр Раманькоў, Уладзімір Парфяновіч... Яшчэ дзесяткі і дзесяткі імён — гэта нашы выпускнікі, якія праславілі айчынны спорт. Дарэчы будзе падкрэсліць і такі факт, што на Алімпійскіх гульнях 1972, 1976, 1980 гадоў беларускія спартсмены ў складзе зборнай СССР заваявалі больш медалёў і ачкоў, чым прадстаўнікі Францыі, не гаворачы ўжо пра меншыя краіны.

...Яшчэ два словы пра нашу матэрыяльную базу. З узвядзеннем новага галоўнага корпуса інстытут практычна вырашыў праблему з аўдыторыямі, ёсць неабходныя трэнажоры, студэнты забяспечаны метадычнай літаратурай. Праводзяць зборы і трэніроўкі на сусветнавядомых спартыўных базах у Стайках, Раўбічах, Ратамцы... Нядаўна ўзвялі побач з галоўным корпусам інтэрнат на 900 месцаў — усе жадаючыя забяспечаны жыллём...

*— Атрымліваецца, Валянцін Максімавіч, што праблем ужо няма? Аўдыторый — хапае, высокакваліфікаваных выкладчыкаў — таксама, спартыўнага інвентару — удосталь, да паслуг студэнтаў — лепшыя стадыёны і базы...*

— Калі б гэта было так! На жаль, праблем больш чым дастаткова. І малых, і вялікіх. Што вырашаецца зараз, што і на доўгія гады можа расцягнуцца...

Возьмем само пытанне падрыхтоўкі кадраў. У 1939 годзе першы выпуск інстытута склаў 44 чалавекі. Цяпер жа штогод атрымліваюць дыпломы 500 чалавек на стацыянары ды яшчэ 300 на завочным аддзяленні. Прагрэс?.. Безумоўна! А на вёсцы асабліва цяжка з высокакваліфікаванымі кадрамі. Тут, вядома, адбіваецца тое, што ўмовы жыцця ў сельскай мясцовасці ўступаюць гарадскім. Да таго ж большая частка нашых выпускнікоў — людзі гарадскія, не прыстасаваныя да жыцця на вёсцы.

Праўда, зрухі ў гэтым пытанні ёсць. У апошнія гады пры паступленні ў інстытут перавага аддаецца абітурыентам, якія накіраваны да нас калгасамі і саўгасамі.

*— Думаецца, што ёсць шмат нявырашанага і ў паўсядзённым жыцці інстытута?*

— Вядома. Вы ж бачыце, як далёка знаходзіцца галоўны корпус ад цэнтра Мінска — ёсць нязручнасці з транспартам. Не завершана будаўніцтва адкрытага стадыёна. З наступнага года пачнецца ўзвядзенне закрытага спорткомплексу з заламі для заняткаў боксам, гімнастыкай, спартыўнымі гульнямі, фехтаваннем і іншымі відамі. У перспектыве таксама будаўніцтва басейна, лёгкаатлетычнага манежа. Адным словам, будзем будавацца, абжывацца на новым месцы, сродкі на гэта ёсць.

Нягледзячы на багаты паўвекавы вопыт, слаўныя традыцыі, інстытут не можа жыць днём учарашнім. Таму былі перагледжаны формы вучэбна-выхаваўчага працэсу, выкарыстоўваецца сучасная методыка выкладання прадметаў. Асабліва вялікая ўвага надаецца ўкараненню вылічальнай тэхнікі ў дыягностыцы, прагназіраванні нормаў фізічнай нагрузкі для ўмацавання здароўя і дасягнення высокіх спартыўных паказчыкаў студэнтаў. Больш увагі вырашана ўдзяляць падрыхтоўцы спецыялістаў без адрыву ад вытворчасці. У асобны факультэт будзе вылучана аддзяленне фізкультурна - аздараўленчай работы і турызму...

*— Адным словам, спраў вельмі многа. І застаецца толькі пажадаць вам у вырашэнні іх вялікага поспеху, а заадно яшчэ раз павіншаваць з пяцідзесяцігоддзем інстытута.*

— Дзякую.

бежанства, яго пратрымалі тры дні ў пастарунку толькі за тое, што выпісаў беларускія газеты. Другі раз, што гурткоўцы, начапіўшы чырвоныя банцікі, збіралі грошы на патрэбы таварыства.

Сеўрука арыштоўвалі і за ўдзел у выбарах на баку тых, хто не быў прыхільнікам акупантаў. Гродзенскі стараста, які даў паэту месяц турмы, па сведчанню самога Сеўрука ў дзённіку, лаяў яго, даводзіў, што ён «падрывае польскую дзяржаву», вельмі цікавіўся тым, у якой «агітатарскай» школе ён вучыўся ў Расіі.

Так у змаганні, у барацьбе шліфаваліся погляды юнака. Можна не сумнявацца, што з цягам часу ён адышоў бы ад некаторых сваіх уяўленняў, прыхільнасцей, у прыватнасці — ад талстоўскага непраціўлення злу насіллем, адмаўлення ўсялякіх войнаў.

Жыццё, дзейнасць у ТБШ давалі Сеўруку багаты матэрыял для роздуму, для вывадаў, для абагульненняў. Апублікаваныя вершы сведчаць аб яго імкненні да сацыяльных тэм. Паэзія Пятра Сеўрука філасофская, лірычная. Хаця ён быў у творчым пошуку і погляды яго адшліфоўваліся, выразна відаць у вершах прыхільнасць да чалавека працы (вершы «Я працую, як вол», «У касьбу», «Песня ратая-беларуса»), імкненне да сацыяльнай справядлівасці («Не хачу», «Адказ на пытанне Максіма Багдановіча»).

Паэт непрымірыма ставіўся да эксплуататараў, паноў, што пацвярджаецца ў вершах «Прыкметы», «Наследаванне Някрасаву». Ён усёй істотай успрымаў нелюбоў народа да чужынцаў, яго гнеў і боль. У творах Сеўрука б'ецца гарачае пачуццё любві да роднай зямлі.

**Беларусь! Ты мой край дарагі,**
**Я тваім хараством зачараваны.**
**І хацеў бы я лёс твой благі**
**Спаліць думкай сваёю агнёваю!**

Гэта адзін з апошніх вершаў Пятра Сеўрука. Напісаны ён у лютым 1927 года.

...А цяжкае жыццё брала сваё. Сухоты падрывалі сілы. Спрыялі хваробе беднасць, праца на гаспадарцы і нястомная літаратурная работа. А чаго каштавалі гордаму юнаку, які верыў у свой народ, у сваё прызванне, здзекі акупантаў. Паліцыянты былі частымі «гасцямі» ў бацькоўскай хаце, усё перарасалі, палохалі, здзекаваліся, «Корпайся, хам, у гнаі, не лезь у навуку», — з'едліва пасміхаліся яны.

У час апошняга арышту Пятра, незадоўга да яго смерці, над ім здзекаваліся асабліва бязлітасна. Жорстка збіўшы, паліцыянты выхваляліся: «Цяпер ён не жылец на гэтым свеце».

Неўзабаве паэт памёр. З папом, які прыйшоў да яго «па апошняе слова», размаўляць адмовіўся. Пахавалі Пятра без рэлігійнага абраду. За труной ішло многа людзей.

Так згас талент.

Засталося шмат ненапісанага, шмат нязробленага, шмат нявыказанага.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ПРЫЯЗНАЕ СЛОВА РУСКАГА ВУЧОНАГА

Надарылася мажлівасць расхінуць яшчэ адну старонку з гісторыі «Нашай нівы»*, менавіта яе сувязей з дэмакратычнай рускай культурай, навукай. Маецца на ўвазе пісьмо слыннага філолага-славіста А. Шахматава да рэдактара і выдаўца беларускай газеты А. Уласава. Ліст датаваны 12 студзеня 1908 года і захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Літоўскай ССР. Але напачатку невялічкае адхіленне. Улетку 1908 года «Наша ніва» (№ 12) змясціла тэкст публічнага выступлення А. Уласава адносна вывучэння беларусікі побач з літаратуразнаўствам у Віленскім універсітэце, адкрыцця якога дамагалася грамадскасць Літвы і Беларусі. Вось галоўныя тэзісы даклада Уласава. Гісторыя, мова і культура беларусаў і літоўцаў даследаваны вельмі слаба. А між тым вучоныя (спасылаецца на працы П. Бяссонава, Я. Карскага, М. Федароўскага) ужо звярнулі ўвагу на старажытнасць паходжання, самабытныя мастацка-творчыя якасці беларускага слова, за якім неабходна прызнаць грамадзянскія правы. Занядбанне мовы беларусаў стрымлівае самавыяўленне духоўных сіл шматмільённага народа і «прыносіць шкоду ўсяму славянству». Наспела патрэба ў кансалідацыі мясцовых намаганняў дзеля сістэматычнага, грунтоўнага вывучэння гістарычна-культурнай спадчыны, сучасных варункаў развіцця народа, паколькі адзінкавымі навуковымі экспедыцыямі з Пецярбурга ў так званы Паўночна-Заходні край праблемы не вырашыць. Гэтай мэце і паслужыла б адкрыццё гісторыка-філалагічнага факультэта пры маючым паўстаць універсітэце ў Вільні. Падрабязную нататку з выступлення Уласава надрукавала таксама газета «Северо-западный голос».

Але раней чым публікаваць свае «пр[illegible]іверсітэцкія» меркаванні, А. Уласаў скіра[illegible]х разам з газетай «Наша ніва» ў Пецярбург да А. Шахматава, тагачаснага члена Праўлення Расійскай акадэміі навук, старшыні аддзялення рускай мовы і славеснасці, прызнанага вучонага-лінгвіста ў галіне рускага, славянскага, у тым ліку і беларускага мовазнаўства. Можна зразумець выбар адрасата кіраў[illegible]м беларускага выдання, якое, як і ўвесь в[illegible]аленчы рух народа, адчувала патрэбу ў падтрымцы грамадскай думкі Расіі. На зварот беларускага дзеяча Шахматаў адгукнуўся неадкладна. Ліст рускага вучонага і зместам, і формай варты таго, каб працытаваць яго цалкам, у арыгінале:

«Многоуважаемый Александр Никитич!

Очень благодарю за присылку «Нашей нивы», читал ее с интересом. Доклад Ваш прочел. Отдел второй я изложил бы совсем иначе: Бессонов решительно не может быть признан авторитетом в вопросе языка, приведенное Вами мнение его только курьезно, в особенности там, где говорится о древности форм белорусской речи. Как Вы можете видеть из Карского (1,247**), он изучил ее поверхностно, как во всех трудах своих, не мог оставаться на позиции беспристрастного наблюдателя (в записках своих стирал полонизмы!). Это был шовинист и причем не из добросовестных. Несправедливым нападкам подверглась в 1-м отделе Академия наук. Она издала четыре отдельных тома Шейна, в настоящее время — программу для собирания особенностей белорусского наречия и ряд трудов под редакцией Карского. Какие же имеются в виду издания Академии по белорусоведению, неудачно исполненные? Вероятно, словарь Носовича, но он издан 30 лет тому назад.

Думаю, что Вы правильно выдвигаете в своем докладе момент о том, что историко-филологический факультет Виленского университета посвятит свои силы изучению местного края, но мысль эту лучше выразить короче, чтобы не вызывать возражений на то или иное доказательство. Относительно белорусского языка достаточно указать на отсутствие словарей, исторических грамматик, систематических описаний говоров и для этого можно сослаться на библиографический обзор Карского. Равным образом достаточно указать на слабое развитие у нас литвоведения (в Петербурге нет кафедры литовского языка***).

Я безусловный сторонник белорусского национального движения, как русский, чувствую неразрывную связь русского племени и сочувствую всем частям этого племени.

Если я чем-нибудь пригожусь Вам, располагайте мною. Не нуждается ли редакция в академических изданиях, мною упомянутых: я устроил бы высылку их Вам.

Искренне уважающий А. Шахматов. 12 января 1908».

Цяжка ў межах аднаго допісу пракаменціраваць усебакова багатае думкамі пісьмо. Асобнай увагі, для прыкладу, патрабаваў бы кантэкст палемічных выказванняў Шахматава па адрасу П. Бяссонава, хоць наогул вядома аб нігілістычным стаўленні аўтара «Беларускіх песень» да перспектыў развіцця беларускай мовы, асуджанай, паводле ягоных меркаванняў, скончыць сваё бытаванне выключна на фальклорна-этнаграфічным узроўні. Хоць Бяссонаву, варункам яго працы нельга не спачуваць: уз'юшаная на Беларусі пасля падаўлення паўстання 1863 года рэакцыя, узмацненне пад аслонай «распалячвання» русіфікацыі далёка не спрыялі аб'ектыўным беларусазнаўчым вывадам.

Не можа не вабіць, як відаць з ліста, асоба А. Шахматава, у кім высокі прафесіяналізм вучонага гарманічна дапоўнены такою ж спагадлівасцю рускага інтэлігента да свабодалюбівых імкненняў беларусаў і літоўцаў і таму вельмі нераўнадушнага да праяў несправядлівасці, суб'ектывізму, палітычнай тэндэнцыйнасці ў навуцы. Навуковая і грамадзянская пазіцыя Шахматава («Я безумоўны прыхільнік беларускага нацыянальнага руху») для гэтага руху значыла нямала. Тым болей, што вучоны выказаў на практыцы дастатковую паслядоўнасць у здзяйсненні сваіх перакананняў. Аўтарытэт, фактычная падтрымка з боку Шахматава, прафесара Пецярбургскага універсітэта, спрыялі развіццю беларускага студэнцкага руху над Нявой, пра што падрабязна пісаў Рыгор Семашкевіч. З манаграфіі польскай даследчыцы Аляксандры Бергман пра Браніслава Тарашкевіча відаць таксама бясцэнная дапамога прафесара ў распрацоўцы кандыдатам філалогіі Тарашкевічам першай беларускай граматыкі. Граматыкі, якая на працягу дваццатых і пазнейшых гадоў служыла ў якасці агульнапрызнанага школьнага падручніка, асновай далейшай нармалізацыі роднай мовы.

Ліст Шахматава ўзварушыў у памяці яшчэ адну драбніцу — неяк пачуў яе ад Мікалая Улашчыка. Зайшла аднойчы між намі гаворка пра хараство, цудадзейны каларыт беларускіх валачобных песень. Субяседнік мой, дзіўнага дару расказчык, успамінаў вясковае дзяцінства, незабыўныя ўражанні ад валачобнікаў-пілігрымаў вялікоднай ночы. Потым, хвілінку памаўчаўшы, ажыўлена падагуліў: «А ведаеце, гэта ж нашы студэнты ў Пецярбургу на вялікдзень пайшлі было да Шахматава на кватэру і гуртом праспявалі яму «Добры вечар, пане гаспадару, вясна красна на ўвесь свет...». Ну, той проста праслязіўся, узрушаны. Усадзіў валачобнікаў за стол ды пачаставаў, што ого-го!»

Мелі, значыць, каму і за што маладыя беларусы выказаць трапяткую пашану.

**Аляксей КАЎКО.**

* Гл. папярэднюю публікацыю «Ліст з «Нашай нівы» («Голас Радзімы», 1987, 20 жніўня). На жаль, пры друкаванні ў тэкст укралася недакладнасць: замест лічбы «100» трэба чытаць «1000».

** Аўтар «Беларусаў» адносна хібаў зборніка Бяссонава з боку захавання асаблівасцей беларускай мовы заўважыў, у прыватнасці: «Выключаючы паланізмы, аўтар нярэдка накладвае на песні вялікарускія адбіткі» (напрыклад, захаванне мяккіх галосных пасля р, адсутнасць падваення зычных), дапускае нават паасобныя «дамысьленні выдаўцы, часта спрэчныя з духам беларускай гаворкі».— Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903, с. 247, — заўвага наша — **А. К.**

*** У сваім тэксце А. Уласаў спасылаўся як на існуючую кафедру літоўскай мовы ў Пецярбургскім універсітэце.— **А. К.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**Несумненнай удачай вядомага беларускага мастака Леаніда Шчамялёва стала яго персанальная выстаўка, якая нядаўна адбылася ў мінскім Палацы мастацтва. Яна была складзена ў асноўным з невялікіх, эцюднага характару твораў. Упершыню мастак паказаў шмат нацюрмортаў. Жывапісец распрацоўвае ў асноўным адзін сюжэт — букет кветак.**

**Значная частка твораў Л. Шчамялёва — даніна любові зямлі беларускай. Тут можна было ўбачыць старажытныя гарады Беларусі з цудоўнымі помнікамі архітэктуры, традыцыйныя вясковыя хаціны, вобразы землякоў, сучаснікаў мастака. Кожная работа майстра, лірыка і каларыста, нясе на сабе адбітак арыгінальнага, вельмі своеасаблівага бачання ім свету. Свету, дзе пануе прыгажосць і гармонія, дзе фарбы прыроды свежыя і чыстыя. На жаль, на чорна-белых фотаздымках вы не можаце ўбачыць гэта незвычайнае і тонкае суладдзе колераў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Л. ШЧАМЯЛЁЎ. «Вясна ў Новым Полі»; «Партрэт В. Свентахоўскай».**

## ЗНАХОДКІ ВІЦЕБСКАГА КРАЯЗНАЎЦЫ

# УЗДОЎЖ БЕРАГА... У ГІСТОРЫЮ

Берагі Заходняй Дзвіны ў старажытным Віцебску — сапраўдная кладоўка гісторыі.

«Вясновыя воды падмываюць бераг, і пасля іх спаду тут лёгка знайсці кераміку XI—XIII стагоддзяў, шыферныя праселкі, шкляныя бранзалеты,..» — піша вядомы беларускі археолаг Г. Штыхаў у манаграфіі, прысвечанай старажытнаму беларускаму гораду на Дзвіне Полацку.

Пошукі старажытных прадметаў на берагах Дзвіны — надзвычай захапляючы занятак. На працягу некалькіх гадоў я аддаваў гэтаму незвычайнаму «падарожжу» ў мінулае амаль увесь свой вольны час, і сярод мноства самых розных знаходак асаблівую цікавасць выклікалі гліняныя курыльныя люлькі.

Калі ж з'явіўся на нашай зямлі гэты сведка даўняй «згубнай» страсці чалавека?

Курыльная люлька, як атрыбут курца, яго нязменны спадарожнік і сябар, прадмет-фецiш, была, відавочна, завезена да нас з Галандыі недзе ў XVII стагоддзі. Менавіта «галандскай» ахрысцілі археолагі маленькую белагліняную люльку (яна мела доўгі і тонкі муштук), некалькі абломкаў якой захоўваецца і ў маёй калекцыі. Чашачка такой люлькі мае ножку, за якую яе (з асобым шыкам) і трымаў курэц, і кляймо майстра. У Галандыі, у сваю чаргу, іх вытворчасць была наладжана перасяленцамі-англічанамі.

Такія люлькі мы бачым у многіх персанажаў «Малых галандцаў» — мастакоў, якія апелі быт сваіх сучаснікаў у XVII стагоддзі.

Распаўсюджванне курэння тытуню, а з ім і імпарт недаўгавечных гліняных курыльных люлек, своеасаблівая іх прэстыжнасць паклалі пачатак вытворчасці тавару на мясцовай аснове. Ужо ў XVIII стагоддзі выраб гліняных люлек з мясцовых чырвоных і шэрых глін атрымаў шырокае распаўсюджанне па ўсёй Беларусі. Форма іх у больш буйных памерах нагадвала спачатку старыя галандскія, але хутка яна набыла самыя розныя варыяцыі. Найбольш падобныя да галандскіх чорныя гліняныя люлькі, колер якіх дасягаўся чарненнем і марэннем пры абпальванні. Магчыма, гэта самыя раннія люлькі мясцовай вытворчасці. Выраблялiся яны па састаўленай з дзвюх палавінак форме, гладкай ці арнаментаванай.

Найбольш жа частымі бываюць знаходкі больш буйных па памерах люлек з чырвонай альбо жоўта-шэрай гліны, асноўная форма якіх стваралася тым жа шляхам фармоўкі. Дадатковы, больш дробны дэкор часта адціскаўся па краю чашачкі ў вільготнай яшчэ гліне спецыяльным кляймом з арнаментам. Такая люлька карысталася вялікім попытам на гарадскім рынку.

Аб распаўсюджванні курыльнай люлькі на тэрыторыі Беларусі (яна стала хутка набыткам не толькі гараджаніна, але і селяніна) сведчаць мемуары рускага вучонага-батаніка А. Башняка, вытрымкі з якіх прыведзены ў кнізе В. Грыцкевіча і А. Мальдзіса «Шляхі вялі праз Беларусь». Пабыўшы ў Беларусі ў пачатку XIX стагоддзя, А. Башняк запісаў: «...люлька, такая ненавісная рускім сялянам, была ў роце кожнага тутэйшага мужыка».

Дзеля зручнасці карыстання гліняная люлька XVII-XIX стагоддзяў была раз'ёмнай. Муштук вырабляўся не толькі з гліны, але, мабыць, і з дрэва і быў самай рознай даўжыні.

Уражвае вялікая разнастайнасць форм і памераў гліняных люлек. Тут, бадай, не было межаў фантазіі ганчароў. Чашачка была то круглай, то гранёнай, то высокай, то шырокай і нізкай, упрыгожанай самым розным арнаментам. Не выключана, што некаторыя экземпляры мелі вонкавую афарбоўку—ёсць у маёй калекцыі дзве люлькі са слядамі ярка-чырвонага пакрыцця.

Так берагі Дзвіны ў Віцебску данеслі да нас разам з іншымі бытавымі рэчамі даўніх часоў і курыльныя люлькі — прадмет своеасаблівага культу, які расказаў нам не толькі аб страсці нашых продкаў да курэння, але і аб іх майстэрстве.

**А. МЕМУС.**



**НА ЗДЫМКУ:** курыльныя люлькі XVII—XIX стагоддзяў, знойдзеныя ў Віцебску.

Фота аўтара.

## СПОРТ

Нацыянальны алімпійскі камітэт СССР 11 студзеня разгледзеў на сваім пленуме запрашэнне Міжнароднага алімпійскага камітэта на ўдзел у Гульнях XXIV Алімпіяды. Кіруючыся алімпійскімі ідэаламі і інтарэсамі ўмацавання міжнароднага алімпійскага руху, высока ацэньваючы ролю Гульняў ва ўмацаванні ўзаемаразумення паміж народамі і міру на зямлі, пленум пастанавіў прыняць гэта запрашэнне.

Адначасова было падкрэслена, што НАК СССР (нацыянальны алімпійскі камітэт) падтрымліваў і падтрымлівае прапанову НАК КНДР аб правядзенні Алімпійскіх гульняў на поўначы і поўдні Карэі, што, несумненна, больш поўна адпавядала б духу алімпійскай хартыі, алімпійскім ідэалам.

Пленум таксама заслухаў інфармацыю аб заключным этапе падрыхтоўкі савецкай каманды да зімніх Гульняў 1988 года ў Калгары (Канада).

Працягваючы тэму зімняй Алімпіяды, адзначым, што каманда нашай краіны выступіць ва ўсіх відах праграмы. А пакуль ідзе ўпартая барацьба за права трапіць у зборную СССР. У ліку кандыдатаў ёсць і прадстаўнікі Беларусі. «Цвёрдым» кандыдатам на паездку ў Калгары можна лічыць мінчаніна канькабежца Ігара Жалязоўскага. Наш спартсмен яшчэ на старце сезона атрымаў некалькі перамог на буйных міжнародных спаборніцтвах. А на апошніх, у Давосе, двухразовы чэмпіён свету тройчы займаў другое месца на дыстанцыях 500, 1 000 і 3 000 метраў.

Вядома, і летняя — у Сеуле, і зімняя — у Калгары Алімпіяды з'яўляюцца найбольш важнымі падзеямі ў спартыўным жыцці. Але спаборніцтвы на іх яшчэ наперадзе. А пакуль спынімся на тых, якія прыцягнулі да сябе ўвагу на пачатку года. Тым больш, калі сярод пераможцаў можна назваць нямала прадстаўнікоў Беларусі.

Летась мы ўжо адзначалі, што пасля часовага спаду пайшла справа на папраўку ў шахматыстаў Беларусі. І вось новыя прыемныя паведамленні. У Галандыі завяршылася першынство Еўропы сярод юнакоў. Больш чым упэўнена ў ім выступіў мінчанін Барыс Гельфанд, які стаў чэмпіёнам кантынента. Вынік пераможцы — 11,5 ачка з 13 магчымых.

А міжнародны гросмайстар Віктар Купрэйчык разам з масквічом Юрыем Балашовым на турніры ў Мальме (Швецыя) набралі па 5,5 ачка з 9. Арганізатары аб'явілі абодвух пераможцамі.

Сур'ёзную заяўку на выхад у фінал розыгрышу Кубка уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін зрабілі валейбалісткі мінскага «Камунальніка». У першым паўфінальным матчы з чэхаславацкім клубам «Славія» беларускія спартсменкі атрымалі пераканаўчую перамогу — 3:0. Гульня ў адказ адбудзецца ў Браціславе.

Вельмі моцныя сапернікі дасталіся барцу класічнага стылю Анатолю Федарэнку з Гродна на міжнародным турніры ў Хельсінкі. У фінале, напрыклад, яму прыйшлося сустрэцца з чэмпіёнам Алімпіяды-84 румынам В. Андрэем. Беларускі атлет выйграў у грознага саперніка пераканаўча — 13:4. Да таго ж Анатолю Федарэнку быў уручаны спецыяльны прыз «Лепшаму барцу турніру».

Адразу траіх хакеістаў дэлегіравала наша рэспубліка на маладзёжны чэмпіянат свету, які прайшоў у Маскве. За зборную Савецкага Саюза гулялі Аляксей Шчабланаў, Юрый Крывахіжа і Андрэй Расолька. Ні адной камандзе фіналістаў не ўдалося пазбегнуць страт ачкоў. У выніку першае месца дасталася зборнай Канады, другое — СССР і трэцяе — Фінляндыі.

Апошняе паведамленне, бадай, зацікавіць аматараў футбола. Прайшла жараб'ёўка фіналу першынства Еўропы, што адбудзецца летам у Заходняй Германіі. Спартсмены Савецкага Саюза трапілі ў адну групу са зборнымі Англіі, Ірландыі і Галандыі. Другую склалі каманды ФРГ, Італіі, Даніі і Іспаніі. Як расцэньваюць гэта групы спецыялісты? На думку вядомага футбаліста члена зборнай СССР мінчаніна Сяргея Алейнікава, сілы прыкладна роўныя. Ясна адно, падкрэсліў ён, што слабых сапернікаў у фінале не бывае.

Такой жа думкі прытрымліваюцца і ўсе апытаныя спецыялісты і ў нас, і за мяжой — спартсмены, трэнеры, кіраўнікі нацыянальных каманд.

## *ПЕСЕНЬКА ПРА БУСЛА*

*Словы А. ВЯРЦІНСКАГА* *Музыка І. ЛУЧАНКА*




**Луг зялёны неабсяжны...**
**А ў тым лузе ходзіць важны,**
**Ходзіць, бродзіць, ходзіць,**
**бродзіць бусел,**

**Ходзіць бусел цэлы дзень.**
**Гэты бусел асаблівы.**
**Толькі з намі ён шчаслівы.**
**Ён за намі ходзіць, ходзіць,**
**Ён за намі ходзіць, ходзіць,**
**Ходзіць, нібы цень.**

**Ён і лётае, і кружыць,**
**Ён нас любіць, з намі дружыць.**
**І як толькі прыйдзем, толькі прыйдзем,**
**Толькі прыйдзем мы на луг,**
**Ён спявае і клякоча,**
**Танцаваць ён з намі хоча...**
**Ён наш самы, самы добры,**
**Ён наш самы, самы добры,**
**Самы добры друг.**

**Луг зялёны неабсяжны...**
**А ў тым лузе ходзіць важны,**
**Ходзіць, бродзіць, ходзіць,**
**бродзіць бусел,**
**Ходзіць бусел цэлы дзень.**
**Гэты бусел асаблівы.**
**Толькі з намі ён шчаслівы.**
**Бусел белы, бусел светлы,**
**Бусел белы, бусел светлы,**
**Светлы, як прамень.**

## ЗІМОВЫ БУКЕТ

У выставачнай зале Дома прыроды, што знаходзіцца ў Троіцкім прадмесці ў Мінску, працуе выстаўка, экспанаты якой нагадваюць аб любімай, бадай што, усімі пары года—леце. «Жаўтаводкая ноч», «Світанак-чарадзей», «Гляджуся ў азёры сінія»—больш трохсот зімовых букетаў прадставілі на выстаўку юннаты і кіраўнікі гурткоў Рэспубліканскай станцыі юных натуралістаў. Засушаныя злакі і кветкі, галінкі дрэў, лапкі ялін, мох, карчы, лішайнікі — гэтыя прыродныя матэрыялы, падпарадкоўваючыся фантазіі аўтараў, склаліся ў арыгінальныя кампазіцыі.

**А. САКАЛОВА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 111.